

# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 9(691)
Верасень 2023 г.

# Дзень Беларускай Вайсковай Славы




# Мітынг салідарнасьці каля будынка ААН

Усераду, 9 жніўня 2023 году, перад штаб-кватэрай ААН на Манґэтане прайшоў мітынг, які быў супольна арганізаваны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”, Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) і Аб’яднаньнем Беларусаў у Амэрыцы (АБА). Мітынг быў прысьвечаны гадавіне масавых пратэстаў у Беларусі, якія адбыліся ў жніўні 2020 году і сталі самай важнай падзеяй для Беларусі за апошнія некалькі дзесяцігодзьдзяў.

Тры гады прайшло, як народ Беларусі ўзьняўся бараніць свой дэмакратычны выбар. Сотні тысяч беларусаў, беспрэцэдэнтная колькасьць людзей, якія раней не цікавіліся палітыкай, выйшлі на плошчы і вуліцы вялікіх і малых гарадоў краіны, адчуўшы еднасьць, убачыўшы салідарнасьць. Цяпер мы адзначаем гэтую і велічную, і трагічную падзею і патрабуем спыніць рэпрэсіі й перасьлед у Беларусі, катаваньні й забойствы, спыніць саўдзел рэжыму Лукашэнкі ў злачынствах агрэсіўнай Расеі, патрабуем свабоды для ўсіх палітзьняволеных у Беларусі.

Напачатку імпрэзы выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Ён падзякаваў прысутным за ўдзел у мітынгу, які праводзіцца ў будні дзень. “Менавіта тры гады спаўняецца сёньня з часу найвялікшага ўздыму беларусаў, калі яны падняліся бараніць свае правы і свой дэмакратычны выбар. Нажаль, справа, пачатая гэтым уздымам, прыход да ўлады кіраўніцтва, якое было б законна абраным, а не ўзурпаваўшым уладу, як гэта адбываецца ўжо колькі гадоў – пакуль не завершылася перамогай. Велізарная энэргія і спадзяваньні людзей не былі належна скарыстаныя і скіраваныя на ўсталяваньне свабоды й дэмакратыі ў Беларусі. Але тая энэргія ня зьнікла, не расьцерушылася, і рэжыму не ўдалося зламаць волю народу да свабоднай, дэмакратычнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай краіны. Беларускія людзі працягваюць змагацца, як на Бацькаўшчыне так і за яе межамі, яны пашыраюць дапамогу палітзьняволеным і іхным сем’ям, яны працуюць на тое, каб на Бацькаўшчыне ўсталявалася дэмакратыя і законнасьць.” Прамоўца прачытаў сьпіс беларусаў, што загінулі, баронячы будучыню сваёй краіны, і першым ў гэтым сьпісе стаіць імя Аляксандра Тарайкоўскага.




заканчэньне на бачыне 4

# Сустрэча з каліноўцам Паўлам Шурмеем

У нядзелю 6 жніўня 2023 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне адбылася сустрэча з ваяром з Палку Каліноўскага, што змагаецца супраць расейскай агрэсіі ва Ўкраіне сп. Паўлам Шурмеем.

Перад пачаткам імпрэзы і пасьля ранішняй багаслужбы ў Саборы была адпраўленая паніхіда па беларускіх ваярах, што загінулі за свабоду Ўкраіны. Затым у грамадзкай залі прысутныя маглі пазнаёміцца з ваяром Палка Каліноўскага сп. Паўлам Шурмеем (пазыўны “Дзядзька”). Павал – высокі мажны 46-гадовы дзядзька з барадой і з рукой у адмысловым мэдычным бандажы.

Імпэзу адкрыла старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка. Яна распавяла пра неабходнасьць падтрымкі беларускіх ваяроў ва Ўкраіне, што яны мусяць адчуваць і памятаюць, як за іх моляцца землякі ў Беларусі й у сьвеце. Прысутныя прагледзелі відэа з кадрамі прыняцьця прысягі па-беларуску ваярамі Палку Кастуся Каліноўскага, што загінулі за “вашу і нашу свабоду”, бо змаганьне за Ўкраіну ёсьць таксама і змаганьнем за ваольную Беларусь.

Слова потым перадаецца галоўнаму ўдзельніку імпрэзы сп. Паўлу Шурмею. Сам Павал родам зь Ліды, гэта вядомы беларускі спартовец па веславаньні, удзельнік Алімпійскіх гульняў. Калі пачалася вайна ва Ўкраіне, Павал быў у Нью-Ёрку і часова прыпыніўся ў будынку гэтага Сабору Сьв. Крылы Тураўскага. Але ўжо на наступны дзень ён вырушыў у дарогу ва Ўкраіну, каб стаць у шэрагі абаронцаў і ваяваць супраць расейскіх захопнікаў. Пазьней Павел далучыўся да Палка Кастуся Каліноўскага, ён стаў кулямётчыкам, і браў удзел у баявых дзеяньнях на пярэдняй лініі, “на нулі”. Быў у баях пад Ірпенем, Мікалаевам, Херсонам, Севераданецкам, Лісічанскам. Падчас адной баявой апэрацыі пад Бахмутам ён атрымаў раненьні абедзвюх рук ад стрэлу расейскага танку. Затым лячыўся ў шпіталі ў Прыкарпацьці, і цяпер праходзіць рэабілітацыю, каб аднавіць разарваны нэрв і дзеяздольнасьць левай рукі. У Нью-Ёрк разам з Паўлам прыехала і ягоная жонка – украінка, сп-ня Алена зь Мікалаева, яна таксама спартоўка-вясьлярка.



Затым сп. Андрусь Драб, сябар Паўла і каардынатар дапамогі, распавёў, што ўжо зроблена дасюль, пра дасягнутыя мэты, пра лягістыку ды іншыя пытаньні дапамогі каліноўцам, і як дапамога даходзіць да адрасатаў.

Старшыня Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА сп-ня Аксана Пятрашка распавяла, як БАЗА дапамагае беларусім ваярам, якія праекты былі ажыцьцёўленыя. Затым яна прапанавала хвілінай цішы ўшанаваць памяць беларускіх ваяроў,

Напачатку гутаркі сп. Павел Шурмей коратка распавёў пра свой вайсковы досьвед, а потым ён адказваў на шматлікія пытаньні прысутных. Яны хацелі мець зь першых рук інфармацыю пра ваяроў-каліноўцаў, пра іх змаганьне, а таксама пра тое, што менавіта сёньня патрэбна нашым ваярам, і як найлепей можам дапамагчы ім. Сярод пытаньняў было, як пачынаўся Полк Каліноўскага (“рыхтаваліся яшчэ задоўга да 24 лютага 2022 году, адразу пасьля падзеяў 2014 г.”) Былі пытаньні пра колькасьць (“досыць шмат людзей, дакладней паведаміць не магу, але значна болей, чым раней”), пра дэталі функцыянаваньня адзінкі, штодзённага жыцьця на вайне, хто ідзе ў полк (“гэта зрэз беларускага грамадзтва, людзі трапляюць самыя розныя, але яднае патрыятызм”). Полк – падразьдзел Інтэрнацыянальнага Легіёну, які ваюе з складзе 3-й матарызаванай брыгады, адной з самых матываваных і баездольных структураў ва Ўзброеных Сілах Украіны (ЗСУ). “Пра джавэліны – джавэлінаў няма, але ёсьць стынгеры. І наагул вайсковага абсталяваньня заўсёды не хапае. У расейцаў поўна жывой сілы і самагубнае скарыстаньне яе ў выніку часта выраўноўвае перавагу якасьці заходняй зброі. Таму любая дапамога важная і патрэбная”. Спыталі пра адносіны да Сьвятланы Ціханоўскай, і ці ёсьць у іх прыхільнікі Ціханоўскай (“ёсьць, і мы ня робім адрозьненьняў па палітычных прыхільнасьцях. Скажам, Хартыя 97 перадала 8 новых машынаў.”). Ці былі беларусы “з тога боку” ўзятыя ў палон – “не былі, але як што – іх скіруюць, як і ўсіх расейцаў, у “абменны фонд”. Былы палонны беларус з палку “Азоў” прыедзе інструктаваць ПКК. На пытаньне пра падрыхтоўку беларускай сьведамасьці, ідэалёгіі – на фронце гэта рабіць складана, адмысловых “палітрукоў” няма, але ёсьць пару хлопцаў, хто цікавяцца гісторыяй, вядуць беларускамоўныя блёгі, дзеляцца сваімі ведамі. Ці бываюць вясёлыя моманты – безумоўна, бяз гумару на вайне цяжка, а то і немагчыма вытрываць.

Сп. Шурмей яшчэ раз падкрэсьліў, што ён за тое, каб супрацоўнічаць з усімі беларусамі, і каб усе беларусы адклалі свае прэтэнзіі адзін да аднаго, ядналіся і дапамагалі адзін аднаму. Таксама былі пытаньні пра эвакуацыю параненых, пра адносіны з адзінкай “Пагоня”, пра сп. Валера Сахашчыка (“думаў, што зробіць болей”). Затым сп-ня Валянціна Трыгубовіч ад Фундацыі Крэчаўскага перадала сп. Паўлу Шурмею падарункі, апасак на кашулю і ювэлірны выраб на патрыятычную тэму працы сп. Валера Дворніка.

Падчас сустрэчы быў арганізаваны збор грошай на падтрымку беларускіх ваяроў ва Ўкраіне. Удзельнікі сустрэчы сватаграфаваліся з ваяром-каліноўцам сп. Шурмеем.

***Віталь ЗАЙКА***

# Ад кавіду да зьмены клімату: сродкі навязваньня глябальнага аўтарытарызму

Пару год таму сьвет апынуўся на валасок ад таго, каб быць цалкам падпарадкаваным і пастаўленым пад вечную мэдыцынскую тыранію з боку кааліцыі ўрадавых чыноўнікаў і іхных карпаратыўных партнёраў. Аналітыкі руху за свабоду часта і раней казалі пра “адкрытую змову”, але толькі пасьля пандэміі мы сапраўды пераканаліся ў існаваньні такой шырокай праграмы.

Яшчэ зусім нядаўна самым распаўсюджаным адказам скептыкаў было тое, што такая змова “немагчымая”, таму што яна “занадта складаная для арганізацыі”. Сёньня ж гэта бясспрэчна – існуе змова ўладных элітаў, яны высока арганізаваныя вакол глябалісцкай ідэалёгіі і хочуць поўнага цэнтралізаванага кантролю над грамадзтвам. Гэта бясспрэчны факт падмацаваны мноствам доказаў. Рэакцыя на кавід скончыла гэтую дыскусію.

Сьпіс злачынстваў супраць грамадзянскіх свабодаў доўгі. Істэблішмэнт і левакі (з дапамогаю жменькі неакансэрватараў) спрабавалі рэалізаваць беспрэцэдэнтныя аўтарытарныя меры ад закрыцьця бізнэсаў і цэркваў да прымусовага нашэньня масак (дасьледаваньні паказваюць, што маскі бессэнсоўныя) і прымусовай вакцынацыі з выкарыстаньнем экспэрымэнтальных прадуктаў без доўгатэрміновага тэставаньня іхняй бясьпекі. У некаторых краінах (у тым ліку ў Новай Зеландыі і Аўстраліі) кавід-лягеры былі пабудаваныя для зьняволеньня ня толькі грамадзянаў, якія выяжджаюць за мяжу, але і грамадзянаў, якія не выяжджаюць. Заканадаўства аб будаўніцтве такіх лягераў было прапанавана і ў ЗША.

Вялікі адсотак дэмакратаў у апытаньнях падтрымліваў нават больш экстрэмальную палітыку, у тым ліку:

- 55% дэмакратаў хацелі штрафаваць амэрыканцаў, якія не прайшлі вакцынацыю;
- 59% дэмакратаў хацелі, каб непрышчэпленых прымусова затрымлівалі;
- 48% дэмакратаў жадалі турэмнага зьняволеньня для тых, хто ставіў пад сумнеў вакцыны.
- 47% дэмакратаў выказаліся за тое, каб урад сачыў за невакцынаванымі;
- 29% дэмакратаў выказаліся за тое, каб адбіраць дзяцей у невакцынаваных.

(https://www.rasmussenreports.com/public_content/politics/partner_surveys/jan_2022/covid_19_democratic_voters_support_harsh_measures_against_unvaccinated)

Як адкрыта прызнавалі многія левыя, мэта была ўскладніць жыцьцё непрышчэпленым так, каб яны ў рэшце рэшт падпарадкаваліся патрабаваньням, каб выжыць. Такім чынам, эліты і левыя маглі сьцьвярджаць, што людзі прышчапляліся без прымусу. Насамрэч яны мелі




на ўвазе тое, што нікога не прымушалі пад дулам пісталета, але ўсе ведалі, што такі крок будзе наступным.

Тым ня менш, глябалісцкія сілы не ўсемагутныя і, вядома, не бясхібная. Яны часта памыляюцца. Кавідны плян абапіраўся на мноства раз'яднаных фактараў, якія было цяжка прадказаць, і большасць зь іх павінны былі працаваць у тандэме. Адным з гэтых фактараў была залежнасьць ад палітычных левых, якія выступалі ў якасьці карысных ідыётаў і інструмэнту для запалохваньня астатняй публікі, каб прымусіць яе выконваць патрабаваньні. Іншым фактарам было меркаваньне, што рэакцыя кансэрватыўных і незалежных вальнадумцаў будзе абмежаванай і лёгка кантраляванай.

Глябалісты моцна недаацанілі патэнцыйны супраціў іхняму пляну, асабліва ў ЗША, дзе больш за 50 мільёнаў узброеных грамадзянаў былі гатовыя пайсьці на вайну з-за драконаўскіх абмежаваньняў. Выглядае, што пашпарты на вакцыны былі ключавым зьвяном, і далі б істэблішмэнту поўнае панаваньне над людзьмі, якія не маглі б атрымаць працу або рабіць пакупкі, не падпарадкоўваючыся мандатам.

Менавіта тады многія кансэрватары і рэспубліканскія штаты занялі сваю пазыцыю, і тады раптам, як у цудзе, кавідная гістэрыя зьнікла. Прапагандысцкая кампанія ў СМІ заціхла (у параўнаньні з папярэднімі двума гадамі), а мандаты былі адмененыя ў большасьці месцаў па ўсім сьвеце. Глябалісты не былі гатовыя рызыкнуць змагацца з масавым паўстаньнем.

Такім чынам, сьвет рушыў далей, паціху забываючы кавідную эру. Палітычныя левыя цяпер спрабуюць зрабіць выгляд, што яны ніколі не падтрымлівалі таталітарныя меры і ўсё, што яны рабілі, было для дабра насельніцтва. Дзяржаўныя ўстановы і чыноўнікі застаюцца непакаранымі за сваю гіганцкую хлусьню. Джо Байдэн застаецца непакараным за спробы адмяніць Біль аб правах. Галоўныя СМІ і буйныя тэхналягічныя кампаніі застаюцца непакаранымі за змову ў прапагандзе і цэнзуры. І хоць злачынны плян цэнтралізацыі быў адбіты, тыя ж злыдні застаюцца ва ўладзе, каб паўтарыць спробу ў будучыні.

Ня варта таксама замоўчваць той факт, што Дональд Трамп спрыяў паскораным праграмам вакцынацыі. Ён таксама ўзяў шмат тэхнакратаў і глябалістаў у свой кабінет, якія пазьней сталі дапамагаць укараненьню аўтарытарнай палітыкі. Наколькі гэтыя людзі паўплывалі на яго ці хлусілі яму, можна спрачацца, але гэта не адмяняе шкоду ягоных рашэньняў.

Мэта глябалістаў заключаецца ў тым, каб хутка перайсьці да іншых крызісных зьяваў, рэальных або сфабрыкаваных, якія дапамогуць закабаліць насельніцтва. Паглядзіце на гістэрыю зьмены клімату...

Парадак дня кавіду і парадак дня зьмены клімату вельмі падобныя ў тым, што абодвыя абапіраюцца на поўную хлусьню. Хлусьня заключаецца ў тым, што гэтыя прыродныя зьявы быццам бы прадыктаваныя паводзінамі чалавека, і, таму паводзіны чалавека павінны кантралявацца ў імя “большага дабра”, бо глабалісты і левыя сьцьвярджаюць, што кожнае асобнае дзеяньне ўплывае на жыцьцё астатняга насельніцтва. Таму жыцьцё кожнага чалавека павінна быць пад мікракіраваньнем дзяржавы, каб не дапусціць нейкай ланцуговай рэакцыі, якая прывядзе да катастрофы.

Са зьменаю клімату і абмежаваньнямі выкідаў вугляроду яны сфабрыкавалі яшчэ адно апраўданьне для ліквi-

*заканчэньне на бачыне 4*

# Ад кавіду да зьмены клімату...

*заканчэньне з бачыны 3*

дацы асабістых свабодаў. Падчас лакдаўнаў многія глябалісты і дасьледчыкі клімату, зьвязаныя зь імі, радаваліся выснове, што лакдаўны могуць быць карысныя для скарачэньня выкідаў вуглякіслага газу. (https://www.forbes. com/sites/carlieporterfield/ 2021/03/03/report-world-needs-equivalent-of-pandemic-lockdown-every-two-years-to-meet-paris-carbon-emission -goals/?sh=1ee24c226dee) Фраза "кліматычныя лакдаўны" пачала гучаць на кліматычных сустрэчах і ў розных дасьледаваньнях. (https://www. wbcsd.org/Overview/Panorama/Articles/Avoiding-a-climate-lockdown)

Гэтыя дасьледаваньні, відавочна, паказалі рэзкае падзеньне выкідаў чалавека падчас лакдаўнаў, але не даюць ніякіх доказаў таго, што выкіды чалавека сапраўды выклікаюць зьмены клімату. Гэта застаецца асноўным падманам ў размовах пра зьмену клімату. Дасьледчыкі клімату, якія маюць доступ да мільярдаў урадавых і глябалістычных фондаў, з радасьцю абапіраюцца на здагадку, што выкіды выклікаюць пацяпленьне, хаця насамрэч ня маюць ніякіх доказаў, якія пацьвярджаюць гэтую заяву. Яны маюць толькі доказы карэляцыі, а не прычыннасьледчай сувязі.

Гэтым летам сродкі масавай інфармацыі запоўненыя кліматычнай прапагандай, якая зьяўляецца беспадстаўнай, параноідальнай і ігнаруе ўсе навуковыя доказы. Амаль усе заявы пра кліматычны крызіс грунтуюцца на запісах крыху даўжэйшых за 100 год. Кліматычная ж гісторыя Зямлі нашмат даўжэйшая, і было шмат пэрыядаў пацяпленьня, значна гарачэйшых, чым сёньня. Усе тыя пацяпленьні адбываліся ў пэрыяды багатага жывёльнага і расьліннага сьвету. І няма ніякіх доказаў таго, што хто-небудзь зь іх стаў прычынаю бедстваў, пра якія папярэджваюць глябалісты.

Кліматычная катастрофа — гэта ня што іншае, як чарговае махлярства, сродак для захопу ўлады і зьнішчэньня грамадзянскіх свабодаў. Пагрозы няма, і нават калі б яна была, людзі нічога не маглі б з гэтым зрабіць, бо мы ня маем ніякага дачыненьня да зьменаў тэмпэратуры Зямлі. Клімат сьвету мяняўся на працягу мільёнаў гадоў, і няма розьніцы паміж зьменамі сёньня і зьменамі ў мінулым.

Глябалісты ведаюць, што для дасягненьня "новага сусьветнага парадку" або "вялікай перазагрузкі", якой яны хочуць, вялікі адсотак насельніцтва павінен у ім узяць удзел. І паколькі большасць людзей мае хоць трошкі сумленьня, а таксама ўласных інтарэсаў, іх паняволеньне трэба прадстаўляць як пазытыў; іх трэба прымусіць паверыць, што, прымаючы рабства, яны ратуюць плянэту і жыцьці іншых.

Нічога з гэтага ня ёсьць праўдай, але пакуль людзі думаюць, што робяць дабро, імі можна маніпуляваць, каб яны падтрымлівалі велізарнае зло.

***Я. З.***

# Мітынг салідарнасьці каля будынка ААН

*заканчэньне з бачыны 1*

"Мы ня ведаем, колькі яшчэ жыцьцяў забярэ гэтае змаганьне, і колькі людзей у турмах і лягерах знаходзяцца цяпер на мяжы жыцьця і сьмерці, каб пасьля загінуць як Вітольд Ашурак, Мікалай Клімовіч і Алесь Пушкін. Але ўсе гэтыя людзі не забытыя, і ўсе хто знаходзіцца за кратамі — мусяць быць пад нашай пільнай увагай і дапамогай, каб іх не напаткаў трагічны несправядлівы лёс. Мы мусім яднацца і працаваць на агульную справу свабоды ў Беларусі".

Затым выступіла сп-ня Ганна Шарко. Яна прывітала прысутных і распавяла пра важнасьць падзеяў 2020 году і таксама выказала горыч дзеля таго, што ўжо тры гады ў Беларусі працягваюцца рэпрэсіі, што тысячы людзей мусілі пакінуць Бацькаўшчыну і шукаць бясьпекі й нармальнага жыцьця на чужыне. Мы ў Вольным Сьвеце павінны дапамагаць сваім брата і сёстрам, што цяпер знаходзяцца за кратамі, і мусім шукаць адзінства і салідарнасьці, каб перамагчы ў нялёгкім змаганьні за свабоду і дэмкратыю.

Сп-ня Ганна Сурмач падкрэсьліла, што падзеі жніўня 2020 году — гэта і велічная, і трагічная памяць, бо гэты беспрэцэдэнтны па колькасьці ўздым мог бы прывесьці да перамогі, але шанцы, якія паўсталі ў тыя дні, не былі належна скарыстаныя. Таму мы мусім помніць герояў, што заплацілі жыцьцём і свабодаю за набліжэньне перамогі, але таксама мусім аналізаваць і плянаваць нашыя справы так, каб не паўтарыць памылкі папярэдніх часоў.

Затым сп. Ільля, малады чалаве, што браў удзел у мітынгу, прывітаў прысутных і падкрэсьліў, што пасьля падзеяў 2020 году беларусы ня могуць і ня маюць права сядзець склаўшы рукі, ім неабходна аб'ядноўвацца і пашыраць грамадзкую працу, асабліва ў беларускіх суполках у замежжы, у Вольным Сьвеце. "Вельмі радасна бачыць, што сярод нас столькі маіх раўналеткаў, столькі моладзі. Гэта дае надзею й веры ў нашую перамогу. Мы можам і павінны перамагчы!"

Прысутныя трымалі плякаты й беларускія нацыянальныя сьцягі, выгукалі лёзунгі "Беларусь — ТАК! Лукашэнка — НЕ!", "Спыніць катаваньні й забойствы ў Беларусі!", "Свабоду палітвязьням у Беларусі!"

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку: ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Сп-ва Л. і П. Рыжых 30**

**Усім шчыры дзякуй!**

## *Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня"!*

*Калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на інфармацыйны бюлетэнь **"Весткі й Паведамленьні".** (Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.)*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*